КАРЭСПАНДЭНЦЫЯ З БЕЛАРУСІ

# КАЛГАС „СВЕТЛЫ ШЛЯХ"

Кожны селянін нашай планеты бачыць свой дабрабыт у запаветным слове — зямля. Чым больш шчодрая яна, тым больш радасна на душы земляробам. І ў гарачую пару жніва, і калі за вокнамі завіруха, у размовах селяніна заўсёды пачуеш словы — зямля, ўраджай.

Тры тысячы гектараў сельскагаспадарчых угоддзяў апрацоўваюць земляробы калгаса „Светлы шлях" Маладзечанскага раёна Мінскай вобласці. Працаўнікі вёскі робяць усё магчымае, каб лугі і пашы давалі высокі ўраджай. Усе працы, пачынаючы ад заворвання глебы і канчаючы ўборкай ураджаю, выконваюцца сельскагаспадарчымі машынамі. Багатая запраўка зямлі гноем і мінеральнымі ўгнаеннямі, якаснае насенне, высокая агратэхніка вырошчвання культур — забяспечваюць высокі



*На адной з вуліц калгаса.*



*Герой Сацыялістычнай Працы, брыгадзір комплекснай брыгады Аляксандр Бобрык.*

ўраджай. У гэтым годзе, напрыклад, у сярэднім з кожнага гектара сабрана звыш 40 цэнтнераў збожжа. А ў брыгадзе № 4, якой кіруе Герой Сацыялістычнай Працы Аляксандр Бобрык, намалочана з кожнага гектара па 60 цэнтнераў азімай пшаніцы.

Бульбы ў гаспадарцы атрымана па 300 цэнтнераў з гектара. Асаблівая ўвага прысвячаецца тут ільну, які ў Беларусі называюць паўночным шоўкам. Пад яго штогод адводзіцца каля ста гектараў лепшых зямель.

Добрыя ўраджаі ўсіх сельскагаспадарчых культур дазваляюць гаспадарцы поўнасцю забяспечыць кармамі грамадскую жывёлу. Цяпер на фермах калгаса знаходзіцца 580 кароў, ёсць буйная свінаферма. І тут усе працаёмкія працэсы выконваюцца з дапамогай тэхнікі. Дзякуючы гэтаму, напрыклад, жывёлавод Аляксей Мялюк адзін даглядае 900 свіней. За год ён адкормлівае 2100 свіней, агульнай вагою 217 тон.

А якая праца, такі і заробак. Напрыклад, камбайнёр Генадзь Бобрык на ўборцы збожжавых культур за змену зарабляў звыш 40 рублёў. За гэтыя грошы можна купіць больш 50 кг цукру альбо 300 кг печанага хлеба. Людзі, занятыя ў жывёлагадоўлі, штомесяц зарабляюць 180-190 рублёў.

Цяперашні жывёлавод ці земляроб — адукаваны чалавек. У калгасе на розных участках вытворчасці працуе цяпер 12 чалавек з вышэйшай і больш 30 чалавек з сярэдняй спецыяльнай адукацыяй. Таму і справы ў калгасе ідуць паспяхова. У мінулым годзе, напрыклад, у гаспадарцы агульны даход ад рэалізацыі ўсёй прадукцыі склаў 1.174 тысячы рублёў. А ў гэтым — даход павінен быць яшчэ вышэйшы.

Высокадаходная гаспадарка дазваляе праўленню калгаса выдзяляць вялікія сродкі на новую тэхніку, на будаўніцтва, на культурна-бытавыя мэты. У сучасны момант на тэрыторыі калгаса працуюць дзве школы — 8- і 10-гадовая, медыцынскі пункт, магазіны, самы сучасны Дом культуры, у якім праходзяць усе ўрачыстасці працаўнікоў сяла. Тут для калгаснікаў штодзень дэманструюцца кінафільмы, перад імі выступаюць самадзейныя і прафесіянальныя артысты, праводзіцца шмат іншых культурных мерапрыемстваў.

З кожным годам усё прыгажэюць вёскі калгаса. Калгас штогод строіць новыя дамы для калгаснікаў з выплатай іх коштаў на працягу 10-15 год. У дамы калгаснікаў прыйшоў газ, электрычнасць.

Невыпадкова ў калгас прыязджаюць павучыцца не толькі суседзі, але і земляробы з другіх рэспублік Савецкага Саюза. Нядаўна тут пабываў старшыня літоўскага калгаса „Шлях Леніна" Укмергскага раёна Іозіс Кандротас. Пазнаёміўшыся з гаспадаркай, госць быў вельмі задаволены і карыснае думае ажыццявіць у сваёй гаспадарцы.

Старшыня калгаса „Светлы шлях" герой Сацыялістычнай Працы, дэпутат Вярхоўнага Савета БССР Уладзімір Калачык гаворыць:

— У дзевятай пяцігодцы мы намецілі дабіцца таго, каб штогод атрымліваць ураджаі збожжавых не менш 45-50 цэнтнераў з кожнага гектара, а бульбы — 350 цэнтнераў. На кожныя 100 гектараў сельскагаспадарчых угоддзяў атрымліваць не менш 200 цэнтнераў мяса, 1000 цэнтнераў малака. Задача гэта нялёгкая, але ажыццявімая. Аб гэтым сведчыць добрая праца нашых земляробаў.

**Мікалай Ваврух**



*Ідзе ўборка ільну.*

Нядаўна пабываў я на адным транспартным прадпрыемстве. Многа тут новага, але многа недахопаў. Наракаюць на запасныя часці. Але ніхто не заўважае, што за варштатам, пад дашком ляжаць часці і ржавеюць. Нам не патрэбныя, гаворыць брыгадзір. Мы калісь рамантавалі такія маркі машын, але 3-4 гады ўжо не спецыялізуемся ў гэтым напрамку, і таму такія часці і прылады нам толькі перашкаджаюць.

Гаспадаранне матэрыяламі і запасамі стала адной з важнейшых спраў. Гэтай праблематыцы быў прысвечаны VIII пленум ЦК нашай партыі. Матэрыялы, што рыхтаваліся на гэты пленум, выявілі вялікія рэзервы матэрыялаў, знаходзячыхся на прадпрыемствах і фабрыках, якія не прыносяць ніякай карысці народнай гаспадарцы.

А матэрыялы і сыравіна нам вельмі патрэбныя. Патрэбна большая іх колькасць перш за ўсё таму, што, як паказваюць статыстычныя даныя, заданні першага паўгоддзя перавыкананы ў многіх галінах прадукцыі, а ў сувязі з гэтым патрэбна дадатковая колькасць матэрыялаў для далейшай прадукцыі.

Неабыякавым у прадукцыйнай эканоміцы з'яўляецца і той факт, што на сусветных рынках у апошні час значна павысіліся цэны на сыравіну.

Зыходзячы з такіх прадпасылак, у жніўні гэтага года Прэзідыум урада прыняў пастанову адносна правядзення па ўсёй краіне ўсеагульнага перагляду запасаў сыравіны і матэрыялаў, а таксама выкарыстоўвання машын на прадукцыйна-эксплуатацыйных прадпрыемствах.




# УСЕАГУЛЬНЫ ПЕРАГЛЯД

Перагляд пачаўся 15 верасня і будзе працягвацца да 10 кастрычніка. Праводзяць яго спецыяльна створаныя камісіі, у склад якіх уваходзяць прадстаўнікі прадпрыемстваў, іх цэнтральных улад і грамадскія дзеячы.

Згодна з указаннямі цэнтральнага органа, пераглядам мае быць ахоплена 36 груп матэрыялаў, але паасобныя камісіі маюць права пашырыць колькасць гэтых груп.

Калі пішам гэты матэрыял, перагляд распачынаецца. І ўжо маем карысныя прыклады. Па тэлефону адказвае дырэктар ваўнянай фабрыкі ў Васількове — Лешак Буфаль.

— Наша фабрыка ў апошні час прайшла грунтоўную мадэрнізацыю. Старыя машыны мы перадалі ў Лодзь, Тамашоў Мазавецкі, у Хошчна і Баліцы, але маем яшчэ запчасці, некаторыя тэхнічныя тавары.

Падобную сітуацыю наглядаем у Фастах і на іншых заводах і прадпрыемствах. Маю тут на ўвазе прадукцыйную дзейнасць, якую вядзе наша вясковая спулдзельчасць. Перагляд, гэта грамадская кампанія, павінен прынесці яшчэ і іншыя карысці. Адзін з магазінераў расказваў, што, напрыклад, ён мае запас часцей да аўтамабіляў на 5 год, а гэта толькі таму, што ў дэталёвым склепе не прадаюць для прадпрыемстваў, а база (гуртоўня) не прадае меншай колькасці, чым 500 штук.

Для беластоцкіх фабрык і прадпрыемстваў справа перагляду, а дакладней кажучы, правільнага гаспадарання, мае яшчэ адно вялікае значэнне. Менавіта, на будучы год у нашым ваяводстве будзе масава ўводзіцца новая фінансава-эканамічная сістэма, дзе колькасць запасу і колькасць выкарыстоўваемай сыравіны будзе мець уплыў на дыспазіцыйны фонд, фонд узнагарод — адным словам, на заробкі людзей.

Але ў гэтай грамадскай акцыі важна не толькі выявіць празмерныя запасы. Заданне калектываў перагляду, дырэкцый і партыйных арганізацый — гэта правільна выкарыстаць тое, што выяўлена. Калі прадпрыемства можа загаспадарыць гэтыя запасы ў сваіх рамках, то павінна гэта быць такая прадукцыя, на якую ёсць вялікае запатрабаванне рынку і каб не трэба было да гэтай прадукцыі імпартаваць дадатковыя матэрыялы.

**А. Карпюк**




**Niedziela 6.X.** 6.30 Tech. Rol. Mat. 7.00 Mech. rol. 7.30 Kurs Rol. 8.05 Przyp. radz. 8.15 Pr. dnia. 8.20 Bieg po zdrowie. 8.30 Now. w domu i zagr. 9.00 Teleranek. 10.15 Antena. 10.30 Trzej świadkowie. 12.15 Dziennik. 12.35 Spotkanie w cukrowni „Łapy". 12.50 Koncert Niedzielny. 13.30 Wyścigi na Służewcu. 14.10 Radar. 14.20 Dla dzieci. 15.00 Nie tylko dla pań. 15.30 Lektury Pegaza. 15.40 Berlin — Warszawa — Berlin — teleturniej. 16.55 Refleksje ob. 17.10 Los. Toto-Lot. 17.25 Postaw się — nie zastaw się. 18.15 Sport. 19.15 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Dobranoc dla dor. 20.25 Gąszcz — film TVP. 21.25 Dobry wieczór — tu Łódź. 22.15 Sport.

**Poniedziałek 7.X.** 12.45 Tech. Rol. Hist. 13.25 Mat. 15.25 Nurt — Nauki polit. 15.55 Pr. dnia. 16.00 Dziennik. 16.10 Zwierzyniec. 17.00 Echo stad. 17.20 Między Odrą a Łabą — rep. film. 17.50 Kur. Maz. 18.05 Śpiewa Chór „Lutnia". 18.20 Kr. Warsz. i Maz. 18.40 Pr. z okazji 30 rocznicy powst. MO. 19.10 Wyst. Amb. NRD. 19.20 Dobranoc. 19.30. Dziennik. 20.20 Teatr TV: B. Brecht — Matka Courage i jej dzieci. 22.20 Światłoczuły notatnik. 22.50 Dziennik. 23.05 Oferty.

**Wtorek 8.X.** 6.30 Tech. Rol. Hist. 7.00 Mat. 8.50 Jak hartowała się stal — film radz. odc. I. 10.00 Dla szkół: (kl. V—VI) J. pol. O miejsce wśród ludzi. 11.05 Dla szkół: (kl. III lic.) J. pol. G. Zapolska „Moralność pani Dulskiej". 12.00 Dla szkół: (kl. IV lic.) J. pol. L. Kruczkowski „Pierwszy dzień wolności". 13.45 Tech. Rol. Wskaz. metod. 14.30 Bot. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla dzieci. 17.00 Iłża — ziemia walcząca — film dok. TVP. 17.35 Studio Tel. Mł. 18.15 Kr. Warsz. i Maz. 18.35 Sezam. 19.10 Przyp. radz. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Jak hartowała się stal — film radz. odc. I. 21.40 Interstudio. 22.20 Godzina Julii Andrews — pr. rozr. 23.10 Dziennik. 23.25 Sport.

**Środa 9.X.** 6.00 Tech. Rol. Wskaz. metod. 6.30 Bot. 7.10 Poddany — film fab. NRD. 9.00 Dla szkół: (kl. VII) Chem. Gaz życia. 10.00 Dla szkół: (kl. VII) Fiz. O ruchach. 11.05 Dla szkół: (kl. VII) Hist. W służbie nauki. 12.00 Dla szkół: (kl. VIII) Chem. Czarne bogactwo. 12.45 Tech. Rol. Fiz. 13.25 Upr. rośl. 13.55 Nurt — Ped. 14.25 P. nożna Polska — Finlandia. 16.15 Pr. dnia. 16.20 Los. Mał. Lot. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla dzieci. 17.10 Inf., Tow., Prop. 17.25 Uroki Japonii — film dok. 17.55 Sylwetki X Muzy — Janusz Gajos 18.25 Kr. Warsz. i Maz.. 18.45 Pr. publ. 20.20 Poddany — film fab. NRD 22.10 Dziennik. 22.25 Sport.

**Czwartek 10.X.** 6.30 Tech. Rol. Fiz. 7.00 Upr. rośl. 9.00 Dla szkół: (kl. VIII i I lic.) Przysp. obr. W służbie narodu. 10.00 Dla szkół (kl. II lic.) J. pol. A. Puszkin. 10.35 Mistrz Alesz — film fab. CSRS. 13.45 Tech. Rol. Chem. 14.30 Hod. zwierz. 15.05 Mat. w szk. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Kr. Warsz. i Maz. 17.00 Mistrz. Świata w zapasach klas. 18.30 Poligon. 19.00 Test — Sł. Ekonom. 20.20 Teatr Kobra: F. Durbridge — Desperaci cz. III. 21.25 Czym żyje świat. 21.55 Sport. 22.15 Recital Paintbox. 22.40 Dziennik.

**Piątek 11.X.** 6.30 Tech. Rol. Chem. 7.00 Hod. zwierz. 8.00 Gąszcz — film TVP. 9.00 Dla szkół: (kl. III) Wojsko, wojsko. 9.15 Janosik 10.00 Dla szkół: (kl. VI)) Geogr. Z dziejów ziemi. 11.05 Dla szkół: (kl. I—II lic.) Wych. tech. W Instytucie Naukowo-bad. 12.45 Tech. Rol. J. pol. 13.25 Hod. zwierz. 15.30 Nurt — Filoz. 16.10 Pr. dnia. 16.15 Red. Szk. zapowiada. 16.25 Przyp. radz. 16.30 Dziennik. 16.40 Pora na Telesfora. 17.20 Medale i detale. 17.45 Dla młodzieży. 18.25 Kr. Warsz. i Maz. 18.45 Opowieści Biblijne cz. I. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Janosik. 21.05 Panorama. 21.45 Teatr TV na świecie: A. Scott — Łoże z baldachimem. 23.15 Dziennik. 23.30 Sport.

**Sobota 12.X.** 6.55 Tech. Rol. J. pol. 7.25 Hod. zwierz. 7.55 Mat. 8.25 Upr. rośl. 8.55 Pr. dnia. 9.00 Pozwólcie startować — film fab. radz. 10.30 Piosenki żołnierskie. 11.10 Dla szkół: (kl. VIII) Geogr. Algieria. 11.40 Utwory Chopina gra Smendzianka. 12.00 Uroczysta zmiana warty. 12.40 Pol. Film Dok.: Idziem do ciebie ziemio, Żołnierski trud. 13.30 Parada Orkiestr Wojsk. 14.10 Pr. I prop. 14.25 Wojsko w karykaturze. 14.35 Przegląd polonijny. 15.05 Piosenki w mundurze. 15.40 Portret wojska. 16.05 Sobótka. 16.30 Turniej sprawnych. 17.15 Dziewczyna na miotle — film. fab. CSRS. 18.30 Pegaz. 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.20 Kwiaty dla Kołobrzegu — koncert. 21.20 Świadkowie — pr. publ. 21.50 Dziennik. 22.10 Sport. 22.35 Hombre — film fab. USA.




**Piątek 4.X** — 7.30 Koncert życzeń. 8.15 Koncert piosenki radz. 8.45 Film dok. 13.25 Pr. dnia. 16.15 Filmy anim. 20.20 Spektakl.

**Sobota 5.X** — 7.00 Pr. dnia. 8.45 Przegl. międzynar. 9.30 Spektakl. 12.00 W świecie zwierząt. 13.00 Koncert życzeń. 16.00 Hokej. ZSRR — Kanada. 19.30 Piosenka-74. 20.00 Koncert.

**Niedziela 6.X** — 7.00 Pr. dnia. 8.00 Koncert. 9.30 Film anim. 11.40 Koncert. 12.15 Film fab. 13.50 Klub film. 17.30 Hokej. ZSRR — Kanada.

# КІНО

**Białowieża** Miłość straceńców — jap. 8—9. Nie ma mocnych — pol. 10—13.

**Czeremcha** Sacco i Vanzetti — włosk. 8—9. Ciemna rzeka — pol. 12—13.

**Dubicze Cerkiewne** Królowe Dzikiego Zachodu — franc. Sąsiedzi — pol. 9—13.

**Gródek** Macocha — radz. 12—13.

**Michałowo** Horyzont — węg. 8—9. Gracz — radz. 10—11. Godzina szczytu — pol. 12—13.

**Mielnik** Lilian leczy chorych — włosk. 9. Arabeska — ang. 12—13.

**Milejczyce** Orzeł w klatce — jug. 8—9. Wdowa Coudero — franc. 10—11. Wiosna panie sierżancie — pol. 12—13.

**Narew** Królewna w oślej skórze — franc. Na niebie i na ziemi — pol. 9—13.

**Narewka** Nocny Kowboj — USA. Wspomnienia z przeszłości — NRF 9—13.

**Nurzec** Gott mit uns — jug. 8—9. Weronika — rum. 10—11. Lalka — pol. 12—13.

**Orla** Spragniona miłości — bułg. Nie ma mocnych — pol. 9—13.

**Rajsk** Białe czaple — bułg. Śmiech w ciemności — angl. 9—13.

**Suchowola** Babie lato — bułg. Podróż w 30-lecie — pol. 9—13.



B.Z.Graf. zam. 2557 O-3

(Працяг са стар. 3)

## ДЫРЭКТАР

калі так было. (А мо няма ваўка, думаў). Зараз-зараз, калі ж гэта было, у якое лета?

Няважна.

Маюць легкавую машыну. Па-праўдзе, ужо за імі перажыванні, што выварочвалі вантробу на левы бок: асабліва, пакуль Генік стаў дырэктарам. Юлі засталося нарадзіць дзіця, дзяўчынку; мода радзіць, менавіта, дзяўчынкі (родзіцца іх менш, чым хлопчыкаў).

Засталося ім дабіцца чатырохпакаёвай кватэры ля Алеі Рэвалюцыі. Найменшы, чацвёрты пакой, будзе дзіцячым.

Жывуць шчасліва. У сераду пазваніла маці, званіла з хаты солтыса. Яе голас прагучэў нечакана. Ён здаўся Геніку прыгожай паняй інжынер, якая палохае тым, што пазвоніць жонцы і прадставіцца ягонай любоўніцай.

— Генічак! — гэтак маці. — Слухай, Генічак...

— Я цябе чую, мама, — адказваў, пазнаўшы маці, задаволены. — Добра чую!

— Чуеш, у нас няшчасце, Генічак, — амаль плакала.

— Што кажаш, мама? — дапытваўся Генік, намагаючыся ўстрывожыцца: цягнула ў кухню да застаўленага стала з бутэлькай самаробнага віна. Юля нецярплівілася.

— Генічак! — крычала маці ў халерны тэлефон з халернай далечыні. — Генічак!! Зараза выкаціла гаспадарку; прыедзь гной выкінь з хлява, я не маю сілаў, няма каго наняць!.. Памажы, Генічак! Прыедзь заўтра; так сказалі: гной выкідаць заўтра! Дэзінфекцыя хлява будзе, я не дам рады, рукі ломіць...

Генік слухаў.

— ...з раніцы прыедзь. Буду чакаць; няма каго наняць, чуеш мяне, Генічак? Каб было каго — не званіла б. Грошы ад цябе дастала; ніхто не хоча выкідаць гною нават за трыста ў дзень...

Слухаў.

Размова не зацягнулася; за сталом сказаў Юлі:

— Дзіўная маці: звоніць, каб даведацца пра здароўе нашае. Снілася ёй штосьці кепскае...

— Замнога даеш матцы грошай, — адказала Юля. Яна бачыла ў вачах Геніка грошы і толькі грошы; мо крыху бляску здзіўлення бачыла, які ў сапраўднасці быў бляскам махлярства, водбліскам.

Генік паехаў выкідваць гной з хлява, а Юлі пазваніў, што едзе на важную нараду, вернецца позна.

Вярнуўся абціхлы, і вельмі моцна напарфумаваны, і адразу палез у ванну.

Звалацужыўся, не здагадалася Юля.

**Сакрат Яновіч**

## МАКСІМ БАГДАНОВІЧ — ЧАСТКА XX

**Фалькларныя творы.** Да трэцяй групы фальклорных твораў трэба залічыць „Ой, лясы-бары ды лугі-разлогі", „У Максіма на кашулі вышыты галубкі", „На Лявонавай кашулі вышыты галубкі", „Як прышла я на ток малаціць", „Хоць і зорачка — ды не вячэрняя", „Лявоніха".

Вершы гэтыя неаднародныя па сваёй тэматыцы і па сваёй структуры. Частка гэтых вершаў датычыцца адносін паміж дзяўчатамі і хлопцамі. Да такога тыпу вершаў залічаем: „Ой, лясы-бары ды лугі-разлогі", „У Максіма на кашулі вышыты галубкі", „На Лявонавай кашулі вышыты галубкі", „Як прышла я на ток малаціць". Якая галоўная розніца паміж гэтымі творамі і тымі вершамі пра адносіны паміж дзяўчатамі і хлопцамі, аб якіх мы ўжо гаварылі раней? У тым, што папярэднія вершы гаварылі аб драматычным або нават трагічным аспекце адносін паміж людзьмі, а ў вершах названай вышэй групы адсутнічае трагічны матыў.

I так, у вершы „Ой, лясы-бары ды лугі-разлогі" Багдановіч гаворыць аб дзяўчыне, якая пакахала няўдачна

„...хлопца я шчыра любіла, —
Да яго сцяжынку пралажыла.
Йшла сцяжынка — дайшла да расстання.
Тут і скончылася нашае каханне".

Няўдачнае каханне не становіцца аднак прычынай трагічных перыпетый у жыцці дзяўчыны. Птушка спявае ёй аб тым, што пакахае яна другі раз і пакахае ўжо па другому. Верш у суме мае аптымістычны характар.

Яшчэ больш аптымістычны характар мае верш „У Максіма на кашулі вышыты галубкі". У гэтым творы, утрыманым у народнай стылістыцы, выступаюць элементы ідылійнай паэзіі. Верш гэты кароткі, лаканічны, але дасканала перадае настрой закаханай дзяўчыны. Прывядзем яго ў цэласці.

### Беларуская літаратура — Аляксандар Баршчэўскі

### Нашаніўская пара

„У Максіма на кашулі вышыты галубкі;
Я за тое вышывала, што цалуе губкі.
У Максіма на кашулі вышыты лісточкі;
Я за тое вышывала, што цалуе вочкі.
У Максіма на кашулі вышыты падкоўкі;
Я за тое вышывала, што цалуе броўкі.

Шчырасць пачуцця, уменне радавацца, прастата стылістыкі, паўторы — гэта рысы, дзякуючы якім верш Багдановіча падыходзіць уплатную да песеннага беларускага фальклору.

Ёсць у Багдановіча і варыянт прыведзенага верша. Пачынаецца ён ад слоў: „На Лявонавай кашулі вышыты галубкі". Вершы гэтыя вельмі падобныя, у іх амаль аднолькавы змест і аднолькавая колькасць радкоў. Аднак ёсць паміж гэтымі вершамі і вялікая розніца. З другога верша даведваемся, што дзяўчына вышывае Лявону галубкі, Сямёну лісточкі, Сапрону падкоўкі за тое, што першы з іх цалуе ёй губкі, другі вочкі, а трэці броўкі. Гэтыя элементы мяняюць радыкальна характар гераіні. Гераіня першага верша ўсё рабіла для аднаго Максіма, гераіні другога ўсё рабіла для трох хлопцаў. У другім вершы падкрэсліваюцца непастаянныя пачуцці дзяўчыны. Такім чынам, можам гаварыць аб гумарыстычна-іранічным характары верша.

Гумарыстычны элемент выступае таксама ў вершы „Скірпуся". Выкарыстоўвае ў ім Багдановіч народны матыў песень і казак аб няўдачным продажы і пакупцы на кірмашы. Скірпуся на кірмашы прадала каня, а купіла селязня. Зрэшты, селязень у вершы — гэта толькі прадлог, гэта сродак мастацкага выяўлення думкі паэта. Аказваецца, што селязень з'яўляецца Іванкам, які не займаецца Скірпусяй, а толькі паглядае праз акно, калі паявіцца на вуліцы Настачка.

Шчырым захапленнем прыгажосцю чалавека вее ад верша „Лявоніха". Верш гэты напісаны па матывах шырока вядомай беларускай народнай песні. У сваім творы Багдановіч захапляецца фізічнай прыгажосцю Лявоніхі, дасканаласцю яе голасу, уменнем танцаваць, добразычлівасцю і сардэчнасцю яе.

Захапленне закаханай дзяўчынай выяўляе таксама верш „Як прыйшла я на ток малаціць". Пісьменнік дасканала перадае настрой і паводзіны закаханай. Паслухайма:

„Як прышла я на ток малаціць —
Ў задуменні застаялася
Ды знянацку рассмяялася.
Нават сорам на хатніх зірнуць:
Ці не ўцямілі, хвароба на іх,
Ад чаго мой тварык смяецца
Ад чаго маё сэрцайка б'ецца".

## Агляд

14 верасня ў выставачным салоне, што ў Беластоку на вуліцы Дамброўскага, была адкрыта выстаўка „30 год Народнай Польшчы ў мастацкай творчасці", зразумела, у творчасці мастакоў беластоцкай акругі.

Як падказваў нам загаловак выстаўкі, трэба было спадзявацца, што ўбачым мы там нейкі агляд, нейкае падсумаванне творчасці беластоцкіх мастакоў за апошнія 30 год, за гады працы ў народнай краіне.

Не гаворачы ўжо аб тым, што спадзяваліся мы ўбачыць там нейкі акцэнт, які б адлюстроўваў хоць у пэўнай ступені вялікую гадавіну — 30-годдзе народнай дзяржавы, былі мы абсалютна ўпэўнены, што ўбачым там найлепшыя, выбраныя творы нашых артыстаў-пластыкаў.

Убачылі мы аднак творы зусім выпадковыя, зусім не найлепшыя ў паасобных аўтараў.

Праўда, аўтараў было нямала — 17 мастакоў, 3 ткачыхі і 1 графік, але, здаецца, не колькасць тут была істотная, а якасць.

I як бы тут не тлумачыліся арганізатары выстаўкі, усё ж працы за апошнія 2-3 гады на такой выстаўцы — гэтага станоўча за мала. Бо ніколі нельга з упэўненасцю сказаць, што праца апошніх год — гэта тое найлепшае, квінтэсенцыя ўсёй творчасці мастака. Мастак — паэтычная душа, якая па-рознаму ўспрымае розныя падзеі, якая мае свае ўзлёты і ўпадкі, і калі што ў яе ўдасца найлепш на працягу многіх год — невядома.

Папоўнілі выстаўку плёны Гайнаўскага мастацкага пленеру разьбы па дрэву, якія вы бачыце на здымку.

**Ада Чэчуга**

фота **Р. Сянько**



(Працяг са стар. 1)

## НА СТРАЖЫ ІНТАРЭСАЎ ПРАЦОЎНАГА ЛЮДУ

Спачатку рэакцыйнае падполле сваю разбойніцкую дзейнасць прыкрывала палітычнымі лозунгамі, а пасля ж звычайна, па-бандыцку, грабіла і забівала людзей.

Маёр Я. Карповіч пераглядае стус архіўных дакументаў і, выняўшы з яго сінюю папку, гартае запісаныя лісты і працягвае:

— Вось хоць бы банда „Яскулкі". У верасні 1947 года, ужо пасля амністыі, жыхар Бельска Ч. Пілецкі, які ад 1943 г. дзейнічаў у бандзе „Млота" і прымаў удзел у крывавых расправах над людзьмі, што мелі прагрэсіўны светапогляд, зноў знайшоў сабе дружбака і заснаваў новую банду. Выкарыстоўваючы старыя знаёмствы, ён сабраў ужо на пачатку 1948 года дзесяць галаварэзаў, пераважна скрываючыхся ўпаасобку бандытаў і дэзерціраў. „Яскулка" дзейнічаў у ваколіцах Боцькаў, Бранска, Вышкаў, Гродзіска і Мілейчыцаў. Забілі яны двух працаўнікоў міліцыі і органаў бяспекі і восем сялян, разграбілі чатырнаццаць вясковых крамаў і абрабавалі 32 сялянскія сям'і. Паводле прыблізных ацэнак бандыты зрабавалі тавараў і грошай у грамадскім гандлі на тры мільёны злотых і на пяцьсот тысяч забралі дабра ў сялян. Бралі ўсё: грошы, адзежу, абутак, матэрыялы, цукеркі. У 1948 годзе былі арыштаваны шэсць бандытаў, але самі атаманы, карыстаючы з дапамогі радні і знаёмых, доўгі час выслізгваліся з рук правасуддзя. З вялікай дапамогай у іх выкрыцці і ліквідацыі прыйшло грамадства, звычайныя сяляне. Уначы з 7 на 8 чэрвеня 1950 года рэшткі банды былі ліквідаваны каля вёскі Зарэмбы. Пасля гэтага людзі на Бельшчыне ўздыхнулі з палёгкай.

### ...I Ў СЁННЯШНІЯ СПАКОЙНЫЯ І ПРАЦАВІТЫЯ ДНІ

— У нашым павеце з кожным годам змяншаецца злачыннасць, — інфармуе павятовы камендант МО ў Бельску маёр **Тадэуш Савіцкі**. — Гэта вынік большай дысцыпліны нашага грамадства, павышэння яго агульнай культуры, уражлівасці на чужую крыўду. Узрасла дысцыпліна працы на прадпрыемствах і пашана да грамадскага дабра. Вялікую ролю ў гэтым адыгрывае прафілактычная дзейнасць органаў міліцыі. Здзяйсняем мы шырокую праграму азнаямлення з прававымі прадпісаннямі. Дзеля гэтага праводзім шматлікія сустрэчы з калектывамі прадпрыемстваў, вясковым насельніцтвам, школьнай моладдзю. Праводзім кантроль забеспячэння ад пажару, пакражы і марнатраўства. Бачна сочым за асобамі, якія ўжо ўвайшлі ў калізію з правасуддзем і не пачынаюць нармальнай працы; не даем спуску хоць і нямногім, але ўсё ж існуючым групкам хуліганаў. Асаблівую ўвагу звяртаем на тую моладзь, якой пагражае адыход ад маральных правіл. Дапамогу нясе нам суд для непаўналетніх, аддзел асветы; сярод членаў ОРМО мы вызначылі апекуноў, якія не толькі дбаюць пра належныя паводзіны гэтых маладых людзей, але, калі трэба, прыходзяць ім з матэрыяльнай дапамогай.

— Таварыш камендант, што вы можаце сказаць аб людзях, якія працуюць у органах міліцыі?

— Перш за ўсё тое, што гэта людзі самаахвярныя, актыўныя грамадскія дзеячы, чулыя на людскую крыўду. Калі прыходзіцца сярод іх назваць найлепшых, заўсёды маю з гэтым вялікія цяжкасці. Яны ўсе сумленныя і старанныя людзі, і такія шматгадовыя працаўнікі, як камендант з Бранска старшы сяржант К. Ленарт, інспектар па справах ОРМО ў Бельску сяржант Ю. Пасерб, камендант горада Бельска сяржант І. Герасік, старшы сяржант В. Манько з Бельска, і такія, як маладыя працаўнікі — кантралёр дарожнага руху сяржант Ю. Выганоўскі і паставы з Боцькаў М. Кужаль. Наколькі нашыя працаўнікі пільна сочаць за парадкам, сведчыць вось хоць бы такі факт. Пару год таму назад у Катавіцкім ваяводстве была абрабавана бензазаправачная станцыя. Тамашняя міліцыя перадала нам вестку, што ў нападзе падазраецца адзін з жыхароў нашага павету. Мы правялі кантроль, і ў выніку гэтага быў затрыманы злачынца. Такім чынам, праз няпоўныя 24 гадзіны ад рабунку ў далёкім Катавіцкім ваяводстве злачынца ўжо быў арыштаваны ў нашым павеце, а ўся пакража — каля 20 тысяч злотых — звернута. Такія прыклады неадкладнай і эфектыўнай дзейнасці нашых працаўнікоў можна было б множыць. Зрэшты, у нашым павеце маем вельмі высокую, бо 93,5 працэнта, выкрывальнасць злачынстваў, а ў некаторых яго відах, як забойствы, пакражы, пабоі і іншых гэты паказчык складае поўных 100 працэнтаў. Што і казаць, гэта мае аграмадны выхаваўчы ўплыў на змяншэнне дзейнасці злачынных элементаў.

— Вашыя пажаданні, таварыш камендант?

— Хачу выказаць праз ваш часопіс сардэчную ўдзячнасць і прызнанне за ахвярную і высакародную працу ўсім нашым працаўнікам, членам ОРМО. Мы вельмі ўдзячны органам нашай партыі і ўсяму грамадству Бельшчыны за дапамогу ў нашай дзейнасці. Стаім жа мы на стражы спакойных і працавітых дзён нашага грамадства.

Размаўляў **Мікалай Гайдук**

